# ЯКІЯ БЫВАЮЦЬ САМАЛЁТЫ



**ПАВЕТРАНЫ РАЗВЕДЧЫК**

Разведка на вайне адыгрывае вялікую ролю. На гэтым самалёце можна падымацца высока над зямлёй і адтуль праводзіць назіранні за ворагам, фатаграфаваць мясцовасць.



**САМАЛЁТ-ШТУРМАВІК**

Самалёт-штурмавік узброены кулямётамі і бомбамі. Ён можа ляцець зусім блізка ад зямлі і сваім агнём знішчаць ворага. Штурмавік спрытна хаваецца за лясы, узгоркі і можа нападаць зусім нечакана.



**ЦЯЖКІ БАМБАРДЫРОЎШЧЫК**

Гэты самалёт—цэлая лятаючая артылерыя. Ён падымае некалькі тысяч кілограм бомбаў. Бамбардыроўшчык нападае не толькі на войска, але і на гарады, на асобныя заводы, ваенныя базы і г. д.



**ЗНІШЧАЛЬНІКІ**

Для абароны ад нападу самалётаў у паветры служаць маленькія, але магутныя машыны—знішчальнікі. Гэта самыя скорыя і вёрткія самалёты. Узброены яны кулямётамі.



**ВУЧЭБНЫ**

На гэтым самалёце маладыя лётчыкі вучацца лятаць. Вучэбны самалёт лёгкі і устойлівы, ім лёгка кіраваць. На малюнку—вучэбны самалёт „У-2".



**ЛЁГКІ ПАСАЖЫРСКІ**

На малюнку—лёгкі самалёт „АІР". Гэта—танная і зручная машына для перавозкі 2—3 пасажыраў з багажом. Такія самалёты могуць узнімацца ў паветра з маленькіх пляцовак.



**ЦЯЖКІ ПАСАЖЫРСКІ**

У 1935 г. загінуў самалёт-гігант „Максім Горкі". Гэта быў самы вялікі самалёт у свеце. Ён падымаў да 70 пасажыраў. Цэлы паветраны карабль! На ім была абсталявана друкарня, радыё, тэлефон. Замест загінуўшага самалёта будуць пабудаваны новыя 16 такіх-жа самалётаў-гігантаў.



**ГІДРАСАМАЛЁТ-АМФІБІЯ**

Для паветранай перавозкі пасажыраў над морам служаць гідрасамалёты, якія могуць садзіцца на вадзе. Некаторыя гідрасамалёты маюць таксама і колы для пасадкі на зямлю; такія самалёты называюцца „амфібіямі". На малюнку—самалёт-амфібія „С-42".



**АЎТАЖЫР**

Аўтажыр—бяскрылы самалёт; замест крылляў ён мае спецыяльную вяртушку, якая прыводзіцца ў рух ад матора. Аўтажыр можа садзіцца амаль на любое месца.



18 лютага ў Маскве ад паралiча сэрца памёр адзін з лепшых кіраўнікоў Комуністычнай партыі і Совецкай улады, член Палітбюро ЦК ВКП(б), Народны Камісар Цяжкай Прамысловасці СССР

**ГРЫГОРЫЙ КАНСТАНЦІНАВІЧ ОРДЖАНІКІДЗЕ.**






# МАРШАЛЫ СОВЕЦКАГА САЮЗА

## ПРОЛЕТАРСКІ ПАЛКАВОДЗЕЦ

Прагрымела Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя. Улада перайшла ў рукі працоўных. Але буржуазія яшчэ не хоча здавацца. Яна збірае белыя арміі і выступае супроць рабочых і сялян.

У гэты час луганскі слёсар — бальшэвік Клім Варашылаў арганізуе першы рабочы партызанскі атрад і вядзе яго ў бой.

На самыя небяспечныя фронты грамадзянскай вайны пасылала партыя т. Варашылава. І ўсюды ён, пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна, дабіваецца выдатных перамог над ворагамі.

Грамадзянская вайна скончана. Таварыш Варашылаў разам з Фрунзе працуе над умацаваннем Чырвонай Арміі.

У 1925 г. памёр Фрунзе. Партыя і Савецкая ўлада назначаюць т. Варашылава народным камісарам па ваенных і морскіх справах.

З таго часу луганскі слёсар Клім Варашылаў стаіць на чале першай у свеце Рабоча-Сялянскай Арміі.

Таварыш Варашылаў—стары бальшэвік, бліжэйшы саратнік вялікага Сталіна. Пад кіраўніцтвам т. Варашылава Чырвоная Армія стала самай магутнай арміяй у свеце.

За выдатныя заслугі таварыш Варашылаў узнагароджаны дзевяццю ордэнамі.

# МАРШАЛЫ СОВЕЦКАГА САЮЗА



## ТУХАЧЭЎСКІ

Міхаіл Нікалаевіч Тухачэўскі нарадзіўся ў 1893 годзе. У царскай арміі ён быў малодшым афіцэрам.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі Міхаіл Нікалаевіч уступае ў рады большэвіцкай партыі. Увесь час працуе ў арміі. Калі т. Тухачэўскаму споўнілася 25 год, ён ужо быў камандуючым арміяй. За два-тры месяцы ён правёў некалькі выдатных паходаў супроць белых на Ўсходнім фронце.

Увосень 1919 года галоўныя сілы ворагаў сабраліся на поўдні. Таварыш Сталін складае выдатны план разгрому ворагаў на Паўднёвым фронце. На гэты фронт пасылаюцца лепшыя палкаводцы—Варашылаў, Будзённы, Егораў, Тухачэўскі.

У 1920 г. Чырвоная Армія Заходняга фронта пад камандваннем т. Тухачэўскага вызваліла Беларусь ад польскіх паноў і бандаў Булак-Балаховіча.

За баявыя заслугі т. Тухачэўскі ўзнагароджаны некалькімі ордэнамі. Зараз М. Н. Тухачэўскі—намеснік наркома абароны СССР.



## БУДЗЁННЫ

Сымон Міхайлавіч Будзённы нарадзіўся ў 1883 годзе. Бацька яго быў беззямельным селянінам. У час імперыялістычнай вайны Сымон Міхайлавіч быў узяты ў армію.

У 1918 годзе пасля разгрома белых у станіцы Палтаўскай т. Будзённы на чале сотні конных партызан пачаў свой слаўны паход. Атрад яго рос з кожным днём. Пад горадам Царыцыным т. Будзённы ўжо з цэлай арміяй далучыўся да чырвоных войск, якія вялі Сталін і Варашылаў.

17 лістапада 1919 года па ініцыятыве таварыша Сталіна была створана Першая конная армія. Партыя даручыла чырвоную кавалерыю Сымону Міхайлавічу Будзённаму, і ён апраўдаў надзеі партыі. Таварыш Будзённы пабываў з сваёй арміяй амаль на ўсіх франтах. І ўсюды ён з поспехам разбіваў белыя конныя арміі.

Грудзі слаўнага героя Сымона Міхайлавіча ўпрыгожаны трыма баявымі ордэнамі Чырвонага сцягу, ордэнам Леніна і двума рэспубліканскімі ордэнамі.

# МАРШАЛЫ СОВЕЦНАГА САЮЗА



## ЕГОРАЎ

Александр Ільіч Егараў нарадзіўся ў 1885 годзе. Бацька яго шмат год быў рабочым, а потым служыў прыказчыкам.

З 1904 года Александр Ільіч прымае ўдзел у падпольнай рэволюцыйнай рабоце. У царскай арміі ён служыў афіцэрам і ў той-жа час праводзіў рэволюцыйную работу сярод салдат свайго палка.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі т. Егараў уступае ў рады Чырвонай Арміі. Спачатку ён быў камандзірам розных часцей. А неўзабаве яго назначылі камандуючым Паўднёвым, а потым Паўднёва-заходнім фронтам. Тут т. Егараў працуе бліжэйшым памочнікам таварыша Сталіна. Армія царскага генерала Дзенікіна і белапалякі хутка былі разбіты.

Скончылася грамадзянская вайна. Таварыш Егараў становіцца камандуючым спачатку Ленінградскай, а потым і другіх ваенных акруг.

З 1931 года Александр Ільіч—начальнік Генеральнага штаба Чырвонай Арміі. За баявыя заслугі таварыш Егараў узнагароджан чатырма ордэнамі Чырвонага сцягу.



## БЛЮХЕР

Васіль Канстантынавіч Блюхер нарадзіўся ў сям'і рабочага ў 1889 годзе.

Ужо ў 1910 годзе Васіль Канстантынавіч кіруе рабочай забастоўкай. За гэта ён быў асуджаны на 2 гады і 8 месяцаў турэмнага зняволення.

У 1916 годзе таварыш Блюхер уступіў у рады партыі большэвікоў.

У ліпені 1919 года з атрадаў Уральскіх рабочых арганізавана 51-я стралковая дывізія. Яе начальнік—Блюхер.

Дывізія пад камандваннем таварыша Блюхера прымае ўдзел у разгроме калчакоўцаў, а пасля ў слаўных перамогах пад Перакопам.

У 1929 годзе таварыш Блюхер—камандуючы Асобай Далёкаўсходняй арміяй. Ён кіруе разгромам кітайскіх генералаў, якія ўзнялі вайну супроць Совецкага саюза.

За баявыя заслугі ў грамадзянскай вайне Васіль Канстантынавіч Блюхер узнагароджаны чатырма ордэнамі Чырвонага сцягу. За ахову совецкіх граніц на Далёкім Усходзе т. Блюхер узнагароджаны ордэнам Чырвонай звязды і ордэнам Леніна

# ЖЫЎ ЧАПАЕЎ!

## Народная казка

Чапаеў быў горды і смелы, хоць і простага роду-звання. У тую крывавую вайну, што вялі буржуі розных краін-дзяржаў, Чапаеў быў просты салдат, а яго баяліся самі генералы. Смелы ён быў, нікога не баяўся, і шашкай працаваў, як добры цясляр сякерай: ударыць—не прамахнецца—правільна і моцна ўдарыць.

А потым, як буржуяў скінулі, прачуў пра гэта Чапаеў, сабраў усіх салдат і такую гутарку вядзе:

— Вось мы, салдаты, і волі дачакаліся, і зямлю ў свае рукі нашы мужыкі ўзялі, дык будзем мы ваяваць далей? Давайце лепш дахаты паедзем.

Добра, паехалі. Толькі пад'ехалі да станцыі, а тут войска вялікае, а спераду знаёмы генерал на белым кані, як сыч, сядзіць, усё пуза ў ордэнах.

— Вы куды, салдаты?—кажа генерал.

— Дахаты,—адказваюць яму салдаты.

— Як гэта дахаты, калі вайна яшчэ не скончана?—І загад дае ўсім застацца.

А на станцыі, куды прыехалі салдаты з Чапаевым, яшчэ і другія салдаты сустрэліся. Таксама дахаты сабраліся. Думаюць салдаты: ехаць нельга, што рабіць?

— Няма чаго думаць. Ваяваць трэба, пакуль усіх буржуяў ды іх генералаў прэч не прагонім. А ваяваць не будзем—нас усіх пераб'юць і волю задушаць. Праўду я кажу, салдаты-таварышы?—сказаў Чапаеў.

— Праўду! Ваяваць трэба!

Выбралі салдаты сваім камандзірам Чапаева. Стала ў яго войска: да салдат яшчэ рабочыя і сяляне далучыліся. Стаў Чапаеў вялікім чырвоным камандзірам. Ну, і павёў ён на знаёмага генерала свае палкі. У дарозе яму мужыкі коней далі. Пасадзіў ён усіх салдат на гэтых коней і—марш!

Сам спачатку ззаду ехаў, а як сталі пад'язджаць бліжэй да генеральскіх, вымчаўся наперад, вусы падкруціў, шапку-папаху заламаў, выняў шашку—толькі сонца заззяла на ёй!—і крыкнуў:

— За мной!..

І рассыпаліся па полі чапаеўскія, поле закрылі, паімчаліся байцы-чырвонаармейцы. А ён толькі шашкай махае, адвернецца назад:

— Смялей! Песню!..

Заспявалі рэволюцыйную (любіў Чапаеў песні) і адразу нібы сілы прыбавілася ў кожнага. Так з песнямі і наляцелі на генеральскіх. Напужаліся адразу тыя, глядзяць, дзівяцца: адкуль такое войска ўзялося? А генерал як стаяў, дык і замёр ад страху, выпусціў з рук свае глядзелкі[1] ды на каня, ды ўцякаць. А за ім і войска яго ўсё збегла.

Цэлыя вёскі ішлі да Чапаева. Генералы і падавацца пачалі ўсё назад ды назад да пяскоў бухарскіх, калмыцкіх, да самага мора Каспія.

Але аднаго разу крыху памыліўся Чапаеў. Было гэта ў Альбішчаве-горадзе і былі ў Чапаева самалёты, толькі не дагледзеў Чапаеў, што сядзяць у іх людзі, якія на генеральскім пайку ўтрымліваюцца. Паляцяць яны нібыта разведваць, а самі сядуць ды

[1] Бінокль.



**ЧАПАЕЎ** — Здымак з мал. на каробцы работы Федоскінскай арцелі.

ўсё раскажуць генералам, што думае Чапаеў, якія тайнасці ў яго.

Добра. Разагнаў Чапаеў раз усіх генеральскіх далёка, сам у Альбішчаве-горадзе астаўся.

— Ну, цяпер можна і адпачыць,—кажа.— Пашлю я палкі ў розныя бакі ворагаў дабіваць.

Так і зрабіў. З сабою пакінуў адзін толькі полк. Прачулі пра гэта летуны. Ляцяць да генералаў: так і так,—кажуць,—з Чапаевым людзей мала.

Зарадаваліся генералы. А калі ў Альбішчаве-горадзе ўсе спалі, яны і падкраліся ўночы вось. Як хмара цёмная, нібы тая машкара! Альбішчаў-горад аблажылі. Чуе Чапаеў—страляюць. Выбег на вуліцу,—эге, машкары колькі! І вылаяўся моцна: недапільнаваў—праспаў...

Паранілі ў гэтым баю Чапаева і кажуць, нібыта ўтануў ён у рацэ Урале.

Толькі няпраўда, што Чапаеў утануў. Генеральскія вось пабілі чапаеўскіх, праўда, а Чапаеў астаўся. Паранены, увесь у крыві, хістаецца, Пецька, друг-таварыш, яго падтрымлівае.

— Што ты адзін зробіш,—кажа яму Пецька. А ён ужо і гаварыць не можа—саслабеў.

Узваліў яго Пецька на сябе ды ў раку Урал кінуўся і пераплыў з ім раку... Вылечыў там яго. Выжыў Чапаеў і прозвішча змяніў, не Чапаевым стаў называцца, а падругому неяк. За памылку сваю, значыцца, каб сораму не было ад людзей. І зараз, людзі баюць, жыў Чапаеў, вялікім начальнікам стаў,—справядлівы такі, добры.

Казка запісана ў 1936 г. у сяле Курылаўцы, Куйбышэўскай вобласці. („Праўда“)




**Апавяданне В. КУРДАВА**
**Малюнкі В. ЦІХАНОВІЧА**

Гэтыя вароты стаяць на адной з нашых граніц. Вароты шырока адкрыты паяздам, якія ідуць з іншых краін.

І напісана на варотах:

„Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!“

Але не ўсякаму адкрыта дарога ў нашу краіну. Ёсць такія госці, якія па шырокіх дарогах хадзіць і ездзіць не любяць, а крадуцца таемнымі сцежачкамі. Гэта ворагі. Яны пераходзяць граніцу, каб разведаць, што ў нас робіцца. Яны нясуць з сабой схаванымі бомбы, каб разбураць тое, што мы будуем.

Калі ворагі пойдуць на нас адкрытай вайною, ім закрые дарогу ўся наша Чырвоная Армія з гарматамі, танкамі, караблямі, падводнымі лодкамі і самалётамі.

А пакуль ворагі пракрадваюцца кучкамі або па аднаму праз кусты, горныя шчыліны і стэпавыя пяскі,—іх выследжваюць пільныя следапыты—пагранічнікі.

Дзень і ноч стаяць на варце совецкія пагранічнікі, ахоўваючы шостую частку свету, дзе будуецца соцыялізм.

Прышлі да піонераў на дачу чырвонаармейцы-пагранічнікі і расказалі пра сваю службу. З усіх граніц з'ехаліся яны, з усіх канцоў нашай краіны. Хто ў пустыні конным пагранічнікам у дазоры ездзіў. Хто сярод гор уначы і ўдзень у засадзе сядзеў. Хто па лясах паўночных на лыжах прабіраўся і па балотнай дрыгве хадзіў.

Расказвае пра сваю службу чырвонаармеец з далёкіх паўночных граніц.

— Месцы нашы самыя глухія. Лясы ды балоты ды рэчкі камарыныя. А гэта парушальніку наруку. Ёсць яму дзе прытаіцца: ён або скрозь гушчар праскочыць, або між купін балотных прапаўзе. Паспрабуй— угледзь, затрымай такога.

Сабакі тут здорава дапамагаюць. Але і сам таксама будзь пільным!

Нялёгкая справа—у засадзе сядзець. Улетку камары цябе ядуць, машкара аблізае, а зварухнуцца нельга. На тое і засада.

Іншы раз, бывае, сядзіш—парушальніка чакаеш, і раптам каля цябе мядзведзь валіць, або лось-прыгажун праз кусты прабіраецца. А страляць па зверу нават і не думай—цярпі. Глядзіш і здагадваешся: ужо калі звер прайшоў, значыць, чалавека тут няма.

Зімой—іншая справа. На снягу ўсё, як на паперы, аддрукавана. Ці звер, ці чалавек пройдзе, а след абавязкова пакіне.

Па сляду аб усім і даведаешся,—хто, куды і адкуль ішоў.

Ціха зімой у нас у лесе. Хіба толькі шапка снегавая ззаду ад цябе зваліцца з шумам—вось і ўсё.

Ходзіш удвух з таварышам па лыжнай сцежцы ўзад і ўперад. Кожны кусцік на сваім участку ведаеш, кожную галінку на кусціку. Калі зламалася галінка, якая ўчора яшчэ цэлая была, адразу яе заўважыш, думаеш: хто тут быў? чаму зламана?

А дзе вока твае следу не заўважыць,—там сабачы нос дапаможа. Сабакі ў нас чуткія, вучоныя. Пусціць праваднік свайго сабаку па сляду, і пачне ён сярод кустоў гойсаць, шнарыць. А за ім—і мы з вінтоўкамі.

Так і ў пургу, і ў мяцеліцу, і ў сцюжу вартуем мы нашу паўночную граніцу.

— А я вось служыў і снегу ў вочы не бачыў. Я з пустыні,—сказаў другі чырвонаармеец.

Граніца ў нас такая: пяскі ды калючкі. Сонца пячэ, усё спальвае. Толькі там і жыццё, дзе вада, дзе студні. Але стэпавыя студні рэдка-рэдка адна ад другой выкапаны. Зойдзеш далёка ў пяскі, заблудзіш— тут табе і смерць без вады.

І бандыты таксама да студняў цягнуцца— да вады.

Аграбяць, пераб'юць мірных вандроўнікаў і гоняць жывёлу хутчэй да граніцы, уцячы хочуць. Але не тут-то было! Не прапусціць бандытаў чырвоны дазор, адрэжа іх ад студняў.

Не па пустыні-ж за імі ганяцца,—пустыня вялікая! Не, трэба іх каля вады падпільнаваць і захапіць жывымі.

Так вось мы і служым на стэпавай граніцы. Спячэшся на сонцы ды на ветры— сам на вандроўніка падобны зробішся.

Кожны дзень у стэп з праваднікам-туркменам выязджаеш.

Навакол пяскі адны, як мора якое пустое. Хіба толькі ўдалечыні караван вярблюдаў пакажацца і зноў знікне ў пясках, або верхавы туркмен праімчыцца—пасбішча новае выглядае.

Вось я сяджу тут цяпер, расказваю вам, а нашы чырвонаармейцы там у страмёнах гойдаюцца—глядзяць у біноклі на пясчаныя барханы, падазроных кропак шукаюць.

— Ну, цяпер я раскажу,—загаварыў трэці чырвонаармеец, з рубцом на твары і з ордэнам на грудзях.

Наша граніца і гарачая і халодная— горная. Яна то нізам між гор цягнецца, то на перавалы ўзбіраецца за самыя хмары, а потым па верхавінах снегавых ідзе,—адна палавіна гары наша, а другая палавіна чужая.

Рэкі горныя—ледзяная вада. Бягуць яны, камені варочаюць. Адзін бераг наш, другі— чужы.



*Граніца ў нас такая: пяскі ды калючкі.*

Слабы чалавек прападзе тут.

Унізе ад гарачых каменняў, як з печы, жарам пыхае. А на горных перавалах снежныя бураны сцежкі засыпаюць.

У гарах багатыя пасбішчы, сакавітая трава—авечы корм.

У старыя часы тут пасвіліся незлічоныя стады багатых баеў—кулакоў па-нашаму. Ну а цяпер гуляюць па горных лугах калгасныя стады. Баеў у нас няма. А тыя з іх, якія за граніцу ўцяклі, да гэтага часу не могуць забыць пра свае ўладанні. Згаворацца іншы раз з басмачамі—разбойнікамі, набяруць банду і да нас у госці. Крадуцца за скаламі, скрозь горныя шчыліны пралазяць—хто на кані, а хто і пехатою. Нападуць на нашых пастухоў, пераб'юць іх і пагоняць авечак да сябе. Бяжыць стада, нібы рэчка цячэ. Тысячы бараноў ідуць. А навакол конныя.

Тут мы і налятаем.

— Па ворагах рэволюцыі! Шашкі да бою. У атаку марш!

Чацверты пагранічнік паслухаў іншых і кажа:

— У нас хоць нічога такога і няма, пра што тут расказвалі, а таксама справа не простая. На тым участку, дзе я служыў, сапраўдны трапічны лес расце. Зараснікі суцэльныя, бамбук, папаратнік ледзь не вышэй галавы. Бананы нават ёсць. А лес густы, душны, сыры. Тут чакай кантрабандыста або шпіёна.

Заварушылася лісце папаратніка, цень нейкая мільганула. Можа, птушка? А можа—дзікі кабан? Або можа гэта чалавек хаваецца? Затоішся, глядзіш,—усе вочы прагледзіш, пакуль разбярэш, у чым справа.

Без сабакі тут нічога не зробіш. Нямецкая аўчарка ў нашых месцах не падыходзіць,—ёй горача будзе, шэрсць густая. Доберман-пінчэру лягчэй. Кароткашэрсты сабака.



*Дабярэцца доберман да шпіёна і зубамі яго—цап!*

У зарасніку бярэм з сабой добермана. Кінецца бандыт напралом у кусты. Бяжыць і адстрэльваецца ад сабакі.

Бах!

А сабака ў бок скокне і зноў за ім.

Бах!

І зноў увільнула сабака, зноў за ім.

Страляе бандыт раз за разам, абойму за абоймай выпускае, а доберман толькі выкручваецца, скача з аднаго боку ў другі, нібы танцуе.

Дабярэцца да шпіёна і за руку зубамі яго—цап! Вось маузер і на зямлі. А тут і мы падбягаем.

Быў сярод гасцей марак-пагранічнік. Расказаў і ён пра сваю граніцу.

— Граніца гэта,—кажа,—асаблівая. Невідзімка.

У моры ні канаў, ні слупоў пагранічных няма. Мора і мора. Гэтую граніцу толькі на карце і можна ўбачыць. Выходзіш на дазор у месячную ноч. Светла, ціха. І нікога, здаецца, навакол няма. А прыгледзішся—то там, то тут запальваюцца ўдалечыні

агеньчыкі на мачтах. Ідуць да нашых берагоў з розных краін параходы з пасажырамі, з таварамі. Пройдзе побач гэткая акіянская махіна, аслепіць цябе ўсімі ілюмінатарамі, скалыхне на хвалі.

Удзень і ўначы гудкі і сірэны равуць. Удзень і ўначы працуюць нашы парты, прымаюць замежных гасцей.

Тут і нам, пагранічнікам, шмат работы. Правяраем дакументы, а іншы раз глядзім, ці няма якой кантрабанды на барту—бочак з падвойным дном, скрынь з падвойнымі сценкамі або чамаданаў з патаемнымі кішэнямі.

Чаго толькі не прыдумаюць парушальнікі, каб правезці да нас крадком кантрабанду. Ды нас не лёгка падмануць.

У самы моцны вецер, у непагоду, у шторм, калі рыбацкія судны цягнуцца да берагу, а гандлёвыя акіянскія чакаюць у парту, пакуль пройдзе бура,—мы на сваіх маторных катэрах выходзім у мора несці дазорную службу. Не прарвецца да нашых берагоў вораг, нават пад аховай ветру і цёмнай ночы.

Не дадзім яму выведаць нашы ваенныя тайны, нашы берагі, нашы сілы.

Гаворыць яшчэ адзін таварыш:

— А я балотная птушка. Стаю, як бусел, сярод купін. Зямля мяккая, гразкая,—так і ходзіць пад табой. Дрэвы навакол, як тычкі гнілыя, тарчаць. Усяго звяр'я ў лесе—совы ды жабы. Ідзеш іншы раз па калена ў вадзе. Дзе з купінкі на купінку скачаш, а дзе і па мастках ідзеш,—яны ў нас на жэрдках праз дрыгву пракладзены. На мне халат плямісты, расфарбаваны пад колер балота. Я ўсё вакол бачу, а мяне нялёгка сярод балотнай іржаўчыны заўважыць.

Увечары страшна ў лесе. Вецер падымаецца, заскрыпіць тонкаствольная сасна, зашуміць балота. А тут яшчэ філін з цемры завухкае.

Шу-бу!
Шу-бу!

І стаіш напагатове, вінтоўку моцна-моцна сціскаеш. А пачуеш, як хлюпне балота або трэсне гнілая галінка пад нейчай нагой, тут ужо на месцы замрэш.

Заўважыш яго, падпусціш малойчыка бліжэй і...

— Стой! Хто ідзе?



*Прыпаў Каробіцын на калена і давай біць з вінтоўкі па ворагах-парушальніках.*

Піонеры спыталі:

— А што, былі такія выпадкі, калі нашых забівалі?

— Бывала і так,—адказалі пагранічнікі і расказалі пра свайго таварыша Андрэя Каробіцына.

Стаяў на варце чырвонаармеец Андрэй Каробіцын. Раптам выйшлі з-за дрэў чацвёра. Навялі на яго чатыры маузеры і сказалі: „Здавайся!“

Але гэта смелы быў пагранічнік.

Прыпаў ён на калена і давай біць з вінтоўкі па ворагах-парушальніках. Зваліў аднаго з першага стрэлу і ў адказ тры кулі атрымаў. Шарахнулася шайка, адступіла. А Каробіцын паўзе ранены па зямлі, страляе ў шпіёнаў, гоніць іх, не пускае на нашу зямлю. Тыя з-за дрэў кулямі яго так і абсыпаюць. Гарачая перастрэлка ідзе.

Пачулі мы на заставе трывогу, бяжым на выручку і бачым: ляжыць Каробіцын на нашай зямлі, памірае ад ран. А па чужой тыя трое валакуць свайго раненага.

Так і не пусціў Каробіцын у СССР шпіёнаў. А праз год на тым-жа месцы зноў сур'ёзная справа выйшла. Тыя-ж самыя бандыты зноў спрабавалі прарвацца да нас. Усе чацвёра. Яны свайго раненага за год вылечылі.

На гэты раз мы далі ім спакойна перайсці граніцу, а потым узялі іх усіх жывымі.

Застава наша так і называецца: застава імя Андрэя Каробіцына.

— А што такое застава?

— Ды нічога асаблівага. Звычайны драўляны будынак, у якім мы жывем, вучымся, працуем, адпачываем пасля дазораў, пісьмы дамоў пішам, у лясной глушы маскоўскую музыку слухаем.

Усё ў нас тут ёсць: і сталовая, і ленінскі куток, і кухня, і канцылярыя. А вінтоўкі ў нас проста каля коек стаяць—у стойках.

У выпадку трывогі кожны адразу вінтоўку сваю знойдзе і на сваё месца стане.

І няхай паспрабуюць узяць нас без бою. Усе мы памятаем Андрэя Каробіцына.




Кружацца сняжынкі,
Як пчаліны рой,
І кладуцца ціха
На зямлі сырой.

Вось і ўсё пакрыта
Белым кажухом,
Зайчык прытуліўся
Ціха пад кустом.

Лес стаіць панура,
Не кіўне сабой,
Чуцен толькі гоман
На гары крутой:

— Дайце нам разгону!
— Гэй, жывей, не стой!
Дружна паляцелі
З горкі снегавой.

Бабіновіч Н.



# ВОЎЧАЕ ГНЯЗДО

Апавяданне Артура Вольскага (вучань 5-га класа)

Вілін бацька быў шоферам. Але Вілю ён рэдка калі браў з сабою ў машыну. Сёння ўвечары бацька збіраўся некуды ехаць. Віля не асмеліўся нават прасіцца, бо загадзя ведаў, што яго не возьмуць. Затое радасці яго не было межаў, калі за чаем бацька сказаў:

— Ну, Віля, збірайся, паедзем у мястэчка.

Віля нават не дапіў чаю. Ён схапіў пальто і шапку і, ўзяўшы ключ ад гаража, пабег на двор. Там ён адчыніў гараж ды забраўся ў машыну.

Чакаць доўга не прышлося. Хутка з'явіўся бацька і сеў за руль. Машына затарахцела і выехала на вуліцу.

Вось ужо зніклі апошнія дамы ўскраіны горада. Праз гадзіну зусім сцямнела. Дарога ішла густым лесам. Вілі стала нават крыху боязна.

Раптам з лесу пачуліся два стрэлы, а ўслед за імі працяглае выццё, потым зноў два стрэлы, і ўсё сціхла.

— Тата, што гэта?—запытаўся Віля.

— Ваўкоў, мабыць, страляюць!—адказаў бацька.

Машына паехала яшчэ хутчэй. Неўзабаве лес пачаў радзець і машына выехала на поле. Цераз поле ішлі два чалавекі. Адзін з іх нёс дзве стрэльбы і вёў на павадку сабаку, а другі цягнуў на спіне, сагнуўшыся, нешта цяжкое. Убачыўшы машыну, першы замахаў рукамі і нешта закрычаў. Другі паклаў сваю ношу на зямлю. Сабака сеў каля яго.

Вілін бацька спыніў машыну.

— Можа падвязіцё да мястэчка?—запытаўся адзін з паляўнічых.

— Можна,—дазволіў бацька.

Паляўнічыя селі ў машыну, а ношу—гэта быў забіты воўк—паклалі ўнізе.

Сабака лёг каля ног свайго гаспадара.

— Дзядзя, гэта воўк?—спытаў Віля аднаго з паляўнічых.

— Але,—адказаў той,—нават ваўчыца.

— Як гэта вы яе забілі?—распытваўся далей зацікаўлены Віля.

Паляўнічы з ахвотай расказаў пра іхняе паляванне.

Так даехалі да мястэчка.

*

Прачнуўся Віля позна. У акно ўжо свяціла сонца. Чырыкалі птушкі. Бацька кудысьці пайшоў. Віля апрануўся і вышаў на двор.

— Што, заспаў? — сустрэў там яго бацька,—мыцца ідзі. Паснедаеш і пойдзем па грыбы.

Праз некаторы час яны былі ў лесе.

Грыбоў тут багата. Кошыкі неўзабаве былі ўжо напоўнены, і Віля з бацькам збіраліся ісці дахаты. Але раптам Віля пачуў недалёка лёгкі візг. Ён падбег да бліжэйшага куста, разгарнуў яго і ўбачыў вострую мордачку ваўчаняці. Гэта было воўчае логава.

— Тата, хутчэй!—крыкнуў Віля.

Бацька палез у кусты і выцягнуў адтуль трое ваўчанят. Адно з іх схапіла бацьку за палец.

— Ай, якое баявое!—крыкнуў бацька.

Гэта былі дзеці той самай ваўчыцы, якую забілі ўчора паляўнічыя. Усіх ваўчанят Віля з бацькам забралі з сабой.

Дома ўсе дзеці з усяго двара, дзе жыў Віля, кожны дзень збіраліся паглядзець на цікавую лясную знаходку. Прыходзілі і дарослыя. Але праз некалькі дзён, як гэта не шкада было для Вілі, прышлося з ваўчанятамі развітацца. Маці не хацела трымаць ваўчанят у кватэры: з імі было занадта шмат клопату. Прышлося аддаць ваўчанят у звярынец, які тады знаходзіўся праездам у горадзе. Там яны гадуюцца і да гэтага часу.

# ПАНСКАЯ ЗАБАВА

**А. С. ПУШКІН**



*Малюнкі К. ГЕДДА*

На дварэ ў Кірылы Пятровіча гадаваліся звычайна некалькі медзведзянят і складалі адну з галоўных забаў пакроўскага памешчыка. У першай сваёй маладосці медзведзяняты прыводзіліся кожнага дня ў гасціную, дзе Кірыла Пятровіч цэлымі гадзінамі бавіўся з імі, нацкоўваючы на іх кошак і шчанят. Падросшы, яны бывалі пасаджаны на ланцуг, у чаканні сапраўднай траўлі. Часамі іх выводзілі пад вокны панскага дома і падкідалі ім пустую вінную бочку, утыканую цвікамі; мядзведзь абнюхваў яе, потым ціхенька да яе дакранаўся, калоў сабе лапы, узлаваўшыся, штурхаў яе мацней, і мацнейшай рабілася боль. Ён уваходзіў у сапраўднае шаленства, з ровам кідаўся на бочку, пакуль не адбіралі ў беднага звера прадмета дарэмнай яго лютасці. Здаралася, што ў воз запрагалі пару мядзведзяў, воляю і няволяю садзілі ў яго гасцей і пускалі іх скакаць, куды вочы глядзяць. Але лепшаю штукаю лічылася ў Кірылы Пятровіча наступная.

Згаладалага мядзведзя запруць, бывала, у пустым пакоі, прывязаўшы яго вяроўкаю за колца, умацаванае ў сцяне. Вяроўка была даўжынёю амаль на ўвесь пакой, так што адзін толькі процілеглы кут мог быць бяспечным ад нападу страшнага звера. Прыводзілі звычайна навічка да дзвярэй гэтага па-



коя, незнарок штурхалі яго да мядзведзя, дзверы запіраліся і няшчасную ахвяру пакідалі сам-на-сам з калматым пустэльнікам. Бедны госць, з абарваным крысом і да крыві ацарапаны, хутка знаходзіў бяспечны кут, але вымушан быў іншы раз цэлых тры гадзіны стаяць прыціснуўшыся да сцяны і бачыць, як раз'ятраны звер у двух шагах ад яго роў, скакаў, станавіўся дубка, рваўся і намагаўся да яго дацягнуцца. Такімі былі благородныя забавы рускага памешчыка!

Праз некалькі дзён пасля прыезда настаўніка, Кірыла Пятровіч успомніў пра яго і пажадаў пачаставаць яго ў мядзведжым пакоі. Дзеля гэтага, паклікаўшы яго аднойчы раніцою, павёў ён яго з сабой цёмнымі калідорамі; раптам бакавыя дзверы адчыніліся—двое слуг упіхваюць у іх француза і запіраюць дзверы на ключ. Апамятаўшыся, настаўнік убачыў прывязанага мядзведзя. Звер пачаў фыркаць, здалёку абнюхваць свайго госця і раптам, падняўшыся на заднія лапы, пайшоў на яго... Француз не струсіў, не пабег і чакаў нападу. Мядзведзь набліжаўся, Дэфорж дастаў з кішэні маленькі пісталет, уклаў яго ў вуха галоднаму зверу і стрэліў. Мядзведзь паваліўся. Усе збегліся — дзверы адчыніліся, Кірыла Пятровіч увайшоў здзіўлены развязкаю свайго жарта.

Кірыла Пятровіч хацеў, канешне, тлумачэння ўсёй справе—хто загадзя сказаў Дэфоржу пра жарт для яго падрыхтованы, альбо навошта ў яго кішэні быў заражаны пісталет. Ён паслаў па Машу. Маша прыбегла і пераклала французу бацькавы пытанні.

— Я не чуў пра мядзведзя, — адказаў Дэфорж, — але я заўсёды нашу пры сабе пісталеты, таму што не маю намеру цярпець крыўду, за якую, па майму званню, не магу патрабаваць задаволення.

Маша глядзела на яго са здзіўленнем і пераклала словы яго Кірылу Пятровічу. Кірыла Пятровіч нічога не адказаў, загадаў выцягнуць мядзведзя і зняць з яго скуру; потым, звярнуўшыся да сваіх людзей, сказаў:

— Які маладзец! не струсіў, яй-богу, не струсіў.

З той мінуты ён Дэфоржа палюбіў і не думаў яго ўжо спрабаваць.[1]

Урывак з аповесці *„Дубровский“*.



---

[1] **Пад відам французскага настаўніка Дэфоржа, аб якім апавядаецца ў гэтым урыўку, у памешчыка-самадура Кірылы Пятровіча тайна пражываў нейкі час паўстанец Дуброўскі. Вось чаму настаўнік не струсіў перад галодным зверам і здзівіў гэтым памешчыка.** *(Заўвага рэд.)*




**Апавяданне П. ЛЕВАНОВІЧА**

**Малюнкі К. ГЕДДА**

У Валодзі быў чорны, з пушыстай шэрсцю кот. Валодзя яго выгадаваў сам, і таму кот прывык да яго. Бывала, прыдзе са школы, а кот аднекуль з печы скокне і пачне мяўкаць у жорсткія вусы. Ад гэтага Валодзю рабілася прыемна і весела. А вечарам, калі пачынаюць вячэраць, падыйдзе да Валодзі, выгне хвост дугой і трэцца каля бока. Бацька часам крыкне на ката, пакажа яму папружку, і тады ён спалохана бяжыць пад стол. Знойдзе там Валодзіны ногі і зноў пачынае лашчыцца да свайго гаспадара. Валодзя любіў і шкадаваў ката.

Але вось здарылася бяда.

Зімою хораша іскрацца беллю снягі. Яны пакрылі роўным абрусам зямлю і стрэхі.

Валодзя любіць глядзець у акно і дзівіцца на вераб'ёў на сметнішчы. З вераб'ямі аднаго разу прыляцела сарока. Доўгі вараньёны хвост падабаўся хлопчыку. Села яна на сметнішча і баязліва паглядае на акно. Чорная дзюба, доўгая і шырокая, шустра апускаецца і падымаецца.

— Ма-ма, якая прыгожая птушка,—сказаў Валодзя.

Сарока не палохалася і скакала па дварэ.

„Чакай-жа, калі ты смелая такая",—падумаў Валодзя і яму захацелася злавіць сароку.

Надзеў паліто, узяў палку і выйшаў у сенцы. Тут яму відаць усё сметнішча праз шчыліну дзвярэй, і сарока яго не бачыць.

Стаіць Валодзя, і бачыць прыляцела сарока.

У яго забілася сэрца: ах, якая прыгожая птушка! Ходзіць па дварэ, ды хвастом трасе, нібы дражніць яго. У Валодзі паднялася злосць на птушку. Ён рушыўся на цыпачках, адразу скокнуў за дзверы і кінуў палку. Але сарока ўзнялася і паляцела. Гэта яшчэ больш раззлавала Валодзю. Тады ён парашыў злавіць яе жывую. Ён прынясе сароку-белабоку ў школу і пакажа сваім сябрам. Валодзя зробіць гэта сёння, зараз-жа, няхай толькі прыляціць яна на сметнік. Валодзя пайшоў у хату, узяў доўгую нітку, прывязаў да яе кручок і адзеў на яго кавалак мяса. Сарока схопіць мяса, глыне разам з кручком і—нікуды не ўцячэ...

Доўга вартаваў Валодзя птушку. Сядзіць у сенцах і глядзіць праз дзверы. Ужо абрыдзела чакаць, і ён сабраўся ісці ў хату, як раптам рванулася нітка.

— Ага, папалася, не ўцячэш!— крыкнуў Валодзя і пабег на двор. Зірнуў кругом і здзівіўся: сарокі не было, толькі вераб'і крычалі весела на страсе. Валодзя пабег за хату і атарапеў. Чорны калматы кот уцякаў па сцежцы. Доўгая нітка цягнулася ўслед за ім.



Валодзя спалохаўся і кінуўся за катом.

— Кіска мой, коцік...

Кот праглынуў мяса з кручком і бег як шалёны. Нітка чаплялася за купінкі, кот тады перакідваўся праз галаву і крычаў. Дарожка вяла на гумно, ёю і бег Валодзя за катом, перапалоханы і злосны. А кот дабег да гумна і знік у ім. Нават і нітку дзесьці адарваў. Валодзя падышоў да варот, клікаў ката, але кот не адгукаўся.

Сумным прышоў Валодзя ў хату і расказаў аб усім матцы. Гаварыў і ледзь не плакаў. Маці паглядзела на яго і сказала:

— Ты, сынку, не палохайся.

— Ён цяпер не прыдзе дадому,—сярдаваў Валодзя.

— У нас быў выпадак,—пачынала апавядаць маці,—кот збег з дому на цэлы месяц, а потым прышоў.

Валодзя супакоіўся. На нейкі час ён забыў пра ката. А на другі дзень, калі прышоў са школы, зноў убачыў сароку на сметніку.

— Мама, можа коцік прышоў дадому?

Маці маўчала, быццам нічога і не чуе.

— Скажы, я плакаць не буду.

— Можа на гумне мышэй ловіць,—адказала маці.

Прышоў бацька, ласкава зірнуў на Валодзю і сказаў:

— Ну, сынок, сароку не злавіў, а коцік здох. Пайшоў я раніцой у гумно сена браць, там і знайшоў яго.

Валодзя ўздыхнуў. Яму шкада было ката і сорамна перад бацькамі. Толькі чаму сорамна? Тут вінавата сарока. Валодзя зірнуў у акно на белабокую сароку і пацікавіўся:

— Татка, а як сароку злавіць?

— Сароку? Ды яе, брат, не зловіш. Няхай лётае.

Валодзя згадзіўся з адказам, і больш ніколі не лавіў сарок.



# ПРА НЮРКУ І ЯЕ КОЦІКА МУРКУ

Верш К. ШАВЕЛЯ

Малюнкі В. Ціхановіча

I

У Нюркі-дзяўчуркі
Валосікі светлыя,
Шчочкі ружовыя,
Ручанькі чыстыя.
У Нюркі-дзяўчуркі
Вочкі прыветныя
І на сукенцы
Кругі прамяністыя.

Раніцай Нюрка
Мыецца чыста.
Побач з ёй Мурка—
Коцік пушысты.

Шэранькі коцік—
Чысценькі роцік,
Нюрцы пацеха-забава.
Вочы агністыя,
Лапкі пушыстыя,
Мяккія лапкі на-славу.

Ён акуратны,
Ён далікатны,—
Ведае Нюрка махнатку:
Не зачапае,
Не паскідае
Цацак, што заўжды ў парадку.

Цацак нямала:
Мішка удалы,
Мяч і аўто, і каляска
Гускі харошыя,
Лялькі курносыя,
Шустрая белка-падласка.

У Нюркі парадак:
Кубікі радам,
Цэлыя вушкі
У лялькі-вяртушкі.

II

Нейк аднойчы
Выбегла Нюрка
З хаты у сад пагуляць.
І загадала
Шэраму Мурку
Цацак сваіх пільнаваць.

Мые махнатка
Морду і вусікі,
Важна ля цацак ён ходзіць.
З лялек курносых,
Беленькіх трусікаў
Прагных вачэй ён не зводзіць.

*

Вось падкраўся ён бокам,
Потым спраўным падскокам—
Раз! на Мішку-мядзведзя.
А тут сам не дагледзеў,
Як нагой зачапіўся
І на мяч паваліўся.
Мяч— скок, скок па падлозе,
Закаціўся пад шафу.



Лялькі ў жаху-трывозе
Ад раптоўнага страху.
Мурка—ўсюды гатоў:
Ад мядзведзя—к аўто.
Сеў, за руль узяўся—

І пад стол памчаўся,
Стукнуўся аб ножкі—
Смерць была-б, каб трошкі.
Паламаў на часткі
Задніх колцаў пару,
Борт разбіў блішчасты
І шкляную фару...

III

Бачыць Мурка:
Ў хату Нюрка
З саду-кветніка прышла.
І вачам яна не верыць:
— Хто-ж зрабіў?
Напэўна шэры
Скінуў цацкі са стала?!
І спытала:
— Што тут стала?
Хто зрабіў—хутчэй кажы?
Пакідала-ж і казала:
Добра цацкі сцеражы!

Мурка наш—
— Мя-ў...
Вінавата стаў
Блізка ля дзвярэй:
Уцячы-б скарэй!

— Пачакай-жа, дураслівы,
Калі ты ў мяне такі!
Пагуляў адзін шчасліва—
Лялькам змяў ушчэнт бакі...
Вось вазьму дубец у рукі
І наб'ю весельчака,
І за зробленыя штукі
Будзеш дзень без малака.



ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“
ЛЮТЫ 1937 г. № 2

ЦАНА 30 КАП.

# ЗАГАДКІ

1. Глянеш—заплачаш, а ўсе яму рады.
2. У шапках, а не людзі, высокія, а не дрэвы.
3. Пералічыце пяць дзён папарадку, не называючы числаў і назваў дзён.
4. Не сучок, не лісток, не краска, а на дрэве расце.
5. Маленькі работнік шмат гадоў працаваў, ніколі не спаў, толькі адзін раз працаваць перастаў і навек прапаў.
6. За белым бярэзнічкам талалайчык брэша.
7. Пасярод двара стаіць гара, спераду вілы, ззаду мятла.
8. Сам у ботах, а хаджу на галаве.
9. Хата рагата, вокан багата, як улезеш—не вылезеш.
10. Сярод хаты вісіць дзед лупаты.
11. Звязаны, а ўсё скача.
12. Без рук, без ног, а вароты адчыняе.
13. Хто гаворыць на ўсіх мовах?
14. Хто двойчы нараджаецца, а адзін раз паміраe?
15. Ідзе дзед з гумна, тарчыць ззаду жардзіна.
16. Хто ляціць без крылляў?
17. Сядзіць Маруся ў чырвоным кажусе, хто ўбача, той заплача.
18. Маленькае, кругленькае, да неба дакінеш.
19. З крылламі—не птушка, з сярпом—не жняя, з коламі—не воз.
20. Сядзіць чырвоненькі дзядок, ніхто яго не кране.

Загадкі прыслалі: *Багрыцэвіч Міхась, Корсак Лукаш, Баршчэўскі Стась і Каўшырка Сцяпан.*



## ПАД ВАДОЙ

— Алло, таварыш вадалаз! Чаго яшчэ вам нехапае?

— Мне-б толькі шклянку вады!

Адгадкі знайдзі сярод наступных слоў: *агонь*; *цыбуля; матылёк; вецер*; *венік; цвік у ботах*; *язык; лямпа ў хаце; вока*; *жняярка; кот; рыбацкая сетка; кара; сонца; сэрца*; *снегавыя горы*; а трэцюю загадку разгадайце самі, мы скажам толькі адзін дзень—*сёння*.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ | Афармленне В. ЦІХАНОВІЧА | Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна | 20000 экз. | Зак. № 188. | Галоўлітбел № 67.